



# Рэгіянальная газета

2 жніўня 2013 года
№ 31 (953)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".





**Аляксандр Рамановіч: "Выбіралі мілагучныя назвы"**

2-я старонка



**"Дзяржаўная граніца": працяг будзе**

20-я старонка



**навіны рэгёна**

## 7000 чалавек перавядуць з паліклінікі №1 у іншыя

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 1 жніўня каля 7000 жыхароў Маладзечаншчыны пераводзяць з паліклінікі №1 у паліклінікі №2 і №3. Па словах выканаўчыцы абавязкаў загадчыцы паліклінікі №1 **Галіны Цар**, з-за вялікай загружанасці замест разлічаных 800 чалавек у дзень даводзілася прымаць да 1300 чалавек. Ля кабінетаў дактароў стаялі чэргі, а ў рэгістратуры не хапала талонаў. Таму адміністрацыя цэнтральнай раённай бальніцы прыняла рашэнне правесці рэарганізацыю, каб палепшыць якасць і даступнасць медыцынскай дапамогі. Усе неабходныя медыцынскія дакументы перададуць паліклінікам №2 і№3 пачынаючы з 29 ліпеня па 2 жніўня.

**Паліклініка №2** (Вялікі Гасцінец, 67, тэл. **75-19-75**) будзе абслугоўваць жыхароў вёсак Насілава, Лешна, Сакі, Дамашы, Баяры, Засценкі, а таксама вуліц Маркава (дамы №№3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 18), Ясінскага (дамы №№7, 16, 17, 18, 19), Вольная (дамы №№2, 5, 8), Вялікі Гасцінец (дамы №№73, 75, 77), Суміцкага (дамы №№3, 5).

**Паліклініка №3** (вуліца Лібава-Роменская, 43, тэл. **74-23-31**) будзе абслугоўваць жыхароў вёскі Цівідаўка, а таксама вуліц Талстога (дом №2), Вялікі Гасцінец (дамы №№44, 44-а, 46, 48, 48-а, 48-б, 50, 54, 56, 58, 81, 83, 85), Галіцкага (дамы №№1–8 (прыватны сектар), 10, 12, 12-а, 14, 16, 21), Грамадоўскай (дамы №№1, 7, 12, 14, 19-а), Буйніцкага (дамы №№34–61 (прыватны сектар), 53, 53-а, 55), Таміліна (дамы №№24-а, 26, 26-а, 28 (прыватны сектар), 29-а, 30, 31, 32, 34, 36, 38), Бухаўшчына (дамы №№40–73 (прыватны сектар), 60), Прытыцкага (дамы №№3, 9, 25), Лібава-Роменская (дамы №№67, 83, 83-а), Таўлая (дамы №№1, 5), завулка Партызанскі (дамы №№4, 6).

**Аддзел інфармацыі.**





# *Ніна Зюзікава:* "Я заплакала, калі мне патэлефанавалі"

## Праз 70 гадоў жанчына даведалася, дзе пахаваны бацька, і прыехала пастаяць ля яго магілы

**МАЛАДЗЕЧНА. Жанчына двое сутак ехала з Урала разам з сынам Міхаілам, каб пакласці кветкі на прыступкі маладзечанскага "Шталага-342" і запаліць лампадку ў памяць аб бацьку.**




Ніна Зюзікава прынесла кветкі, каб пакласці іх на магілу бацькі.

Цяпер Ніне Зюзікавай 74 гады. Калі ёй было тры, іх сям'і прыйшло паведамленне, што ён прапаў без вестак. І толькі цяпер, праз 70 гадоў, жанчыне стаў вядомы яго лёс.

– Усё жыццё чакалі звестак пра майго бацьку **Пятра Лаўрэнцьевіча Кальцова**. Цяпер мы яго знайшлі. Пляменнікі даведаліся з Інтэрнэта, што ён памёр у лагеры ад хваробы. Калі мне патэлефанавалі і сказалі пра гэта, я заплакала.

Адразу прыехаць не змаглі, атрымалася толькі праз год. Вялікі дзякуй клубу "Пошук"! Калі б не ён, майго тату, мабыць, ніколі б не знайшлі. Цяпер, стоячы перад шталагам, я адчуваю ўдзячнасць за тое, што мы можам тут пабываць праз 70 гадоў пасля смерці таты.

Мы ж не ведалі, што з ім стала. Я ўбачыла, дзе мой бацька пахаваны, і вельмі гэтаму рада. Я адчуваю і радасць, і смутак. Радасць, што даведаліся, і смутак за лёс таты. Яшчэ раз вялікі дзякуй **Лідзіі Барысаўне Князевай**, яе клубу і ўсім людзям, якія ім дапамагаюць. Яны робяць такую добрую справу! Дапамагаюць даведацца пра лёс блізкіх. Хоць позна, хоць шмат сваякоў ужо памерла… Цяпер і мае пляменнікі будуць ведаць, што ў іх ёсць такі дзед, і, магчыма, хутка прыедуць сюды ўбачыць на свае вочы.

Пляменнікі Ніны Зюзікавай жывуць ва Удмурцыі ў сяле Юські. На адміністрацыю гэтай рэспублікі клуб "Пошук" высылаў спісы вязняў, якіх ім удалося адшукаць. Там жа было пазначана, што больш падрабязныя звесткі пра гэтых людзей можна атрымаць на сайце "Мемарыял".

– Магчыма, тыя, хто атрымлівае нашы спісы, дапамагаюць адшукаць сваякоў, – тлумачыць кіраўніца клуба "Пошук" **Лідзія Князева**. – Атрымалася так, што ў гэтым выпадку нашы пошукі сустрэліся. Яны шукалі нас са свайго боку, а мы іх – з нашага. Аднак сустрэча была для нас нечаканасцю. На электронную пошту прыйшоў ліст, што да нас з Удмурцыі едуць госці. Я заўсёды такія прыезды пераношу вельмі цяжка. Нягледзячы на тое, што тут пабывала ўжо столькі сваякоў, прайшло столькі сустрэч, кожная з іх пакідае сівыя валасы на маёй галаве і шрам на сэрцы. Мы бачым, што праз столькі гадоў, нягледзячы на ўзрост, нягледзячы на адлегласць, людзі прыязджаюць сюды. Гэта, канешне, вартае шмат чаго. Я лічу, што менавіта для гэтага мы і працуем.

У новых спісах ёсць прозвішча Пятра Кальцова, аднак на памятную дошку "Шталага-342" яго яшчэ не занеслі. Магчыма, у наступным годзе, да 11 красавіка, Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў, гэта будзе зроблена.

**Настасся РОЎДА.**

НАЗВЫ ВУЛІЦ

# *Аляксандр Рамановіч:* “Выбіралі мілагучныя назвы”

**МАЛАДЗЕЧНА. Хутка пройдзе заключны этап адбору прапаноў на новыя назвы вуліц.**

Ящчэ ў красавіку Маладзечанскі райвыканкам звярнуўся да жыхароў горада з прапановай даць імёны вуліцам, завулкам і праездам горада, якія пакуль не маюць назвы.

Пэўны час камісія па перайменаванні вуліц праводзіла адбор.

– Нам даслалі шмат прапаноў, – кажа начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч**. – Прыходзілі лісты і ад настаўнікаў, і ад работнікаў культуры, і проста ад зацікаўленых людзей. На кожную вуліцу атрымалася па тры, па пяць варыянтаў назваў. Пры адборы мы ставілі на першы план назвы, звязаныя з Беларуссю і мясцовым краем. Глядзелі, каб яны былі зручныя для вымаўлення, прыгожыя, трапныя і слушныя. Камісія доўга вырашала, як згрупаваць і падаць прапановы, каб яны ўпісваліся ў агульны склад назваў вуліц нашага горада. У выніку стварылі спіс, дзе на кожную вуліцу засталося па дзве ці тры прапановы, каб яшчэ было з чаго выбіраць.

У Маладзечанскім раённым Савеце дэпутатаў нам паведамілі, што сесія, на якой камісія па перайменаванні вуліц прыме канчатковае рашэнне, мае адбыцца 6 жніўня.




Калаж “РГ”.

Якімі будуць назвы маладзечанскіх вуліц, яшчэ невядома.

### Нагадваем

Без назвы застаюцца вуліцы, што злучаюць Вялікі Гасцінец і Лібава-Роменскую вуліцу, а таксама Міру і Хмяльніцкага. Дзесяць новых іменаў чакаюць вуліцы і завулкі раёна індывідуальнай забудовы Фестывальны, і сем – у паўднёвай частцы горада.

Пасля таго, як да Маладзечна далучылі некалькі вуліц вёскі Рагазы, узнікла патрэба замяніць тыя назвы, якія ў горадзе ўжо ёсць. Таму Маладзечанская і Усходняя вуліцы Рагазаў таксама атрымаюць новыя назвы. Пяць вуліц і два праезды былой вёскі назваў пакуль не маюць.

**Настасся РОЎДА.**

### Спіс прапаноў вуліц пасля праведзенага адбору:

**Раён індывідуальнай забудовы Рагазы**

| | |
|---|---|
| Праектуемая №1 | вуліца Народная |
| Праектуемая №2 | вуліца Катэджная |
| Праектуемы праезд №2* | вуліца Мірная |
| Праектуемая №3 | вуліца Светлая |
| Праектуемая №4* | вуліца Францішка Скарыны |
| Праектуемая №5* | вуліца Сонечная |
| Праектуемая №6* | вуліца Прыазёрная |
| Праектуемая №7* | вуліца Васенняя |
| Праектуемая №8 | завулак Сонечны |
| Праектуемая №9 | завулак Цюрлёўскі |
| Праектуемая №10 | завулак Васенні |
| Праектуемая №11* | вуліца Багдана Хмяльніцкага |

**Раён індывідуальнай забудовы Фестывальны**

| | |
|---|---|
| Праектуемая №1 | вуліца Мікалая Гастэлы |
| Праектуемая №3 | вуліца Шырокая |
| Праектуемая №5 | вуліца Святочная |
| Праектуемая №6* | вуліца Красненская |
| Праектуемая №7 | завулак Дружны |
| Праектуемая №8*, №11* | вуліца Заслаўская |
| Праектуемая №9, №16 | вуліца Пакроўская |
| Праектуемая №10 | вуліца Радужная |
| Праектуемая №14 | вуліца Славянская |
| Праектуемая №15 | вуліца Дружная |
| Праектуемая №17 | завулак Красненскі |
| Праектуемая №18 | завулак Радужны |

*** Падаўжэнне вуліц, якія ўжо існуюць**
**1.3. Назваць у горадзе Маладзечна:**
**– Пешаходна-транспартную сувязь Вялікі Гасцінец і вуліца Лібава-Роменская – вуліца Шырокая або вуліца Магістральная;**
**– Пешаходна-транспартную сувязь вуліц Міру і Багдана Хмяльніцкага – вуліца Спаская.**

**2. Прапановы па перайменаванні вуліц у вёсцы Рагазы, што ўваходзяць у Маладзечна:**
**2.1. Перайменаваць вуліцу Усходнюю у вуліцу Утульную.**
**2.2. Перайменаваць вуліцу Маладзечанскую у вуліцу Францішка Скарыны – працяг існуючай вуліцы.**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Электрычнасць і ацяпленне даражэюць

**БЕЛАРУСЬ. Цеплавая і электрычная энергія для жыхароў Беларусі даражэе ад 1 жніўня. Адпаведнае рашэнне зняшчаецца ў пастанове ўрада ад 29 ліпеня.**

Тарыфы для насельніцтва на цеплавую энергію для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння павялічацца на 9% да 68 833,5 рубля за 1 Гкал. Раней кошт 1 Гкал быў 63 150 рублёў.

Змены тарыфаў на электрычную энергію выглядаюць наступным чынам: аднаставачны тарыф на электраэнергію ў жылых дамах (кватэрах), абсталяваных ва ўстаноўленым парадку электрычнымі плітамі, – 428,5 рубля за 1 кВт/гадз (раней 375,9 рубля за 1 кВт/гадз), дыферэнцыраваны тарыф у такіх жылых памяшканнях у перыяд мінімальных нагрузак (з 22.00 да 17.00) – 300 рублёў за 1 кВт/гадз (263,1 рубля за 1 кВт/гадз), а ў перыяд максімальных нагрузак (з 17.00 да 22.00) – 857 рублёў за 1 кВт/гадз (751,8 рубля за 1 кВт/гадз).

Электрычная энергія для патрэбаў ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за пяць кВт у перыяд мінімальных нагрузак (з 23.00 да 6.00) падаражэе з 442,4 рубля за 1 кВт/гадз да 504,3 рубля, у астатні час сутак – з 1 327,2 рублі за 1 кВт/гадз да 1 512,9 рубля.

У астатніх выпадках аднаставачны тарыф складзе 504,3 рубля за 1 кВт/гадз (раней – 442,4 рубля за 1 кВт/гадз), дыферэнцыраваны тарыф у перыяд мінімальных нагрузак будзе 353 рублі за 1 кВт/гадз (309,7 рубля за 1 кВт/гадз), у перыяд максімальных нагрузак кошт электраэнергіі ўзрасце на 123,8 рубля да 1 008,6 рубля за 1 кВт/гадз.

**Паводле БелаПАН.**

ЗАХАПЛЕННІ

## У Мядзеле вызначылі лепшага рыбака

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 27 ліпеня прайшлі спаборніцтвы па рыбнай лоўлі. Прынялі ў іх удзел семнаццаць чалавек – з Мядзела і к. п. Нарач (Купа).**

А палове сёмай раніцы адправіліся яны на лодках на возера Мястра і рыбачылі шэсць гадзін.

Пераможцам стаў жыхар Мядзела **Антон Каласоўскі**. Прычым, у гэткіх спаборніцтвах ён у ліку лепшых трэці год запар.

– Як так атрымліваецца? – пытаюся.

– Тут ніякага сакрэту няма. Я тут нарадзіўся і люблю гэта возера. Хай сабе і Нарач вялікае, і рыбы там болей, але ж я люблю свой Мядзел і гэта возера і яму не здраджваю. Ведаю мясціны, дзе рыбы болей, калі яна лепш ловіцца. Таму такі і вынік.

Узнагародзілі лепшага рыбака ва ўрачыстай абстаноўцы – на адкрыцці свята возера. Атрымаў пераможца граматы і грашовую прэмію. Зладзіў Антон Каласоўскі дванаццаць з паловай кілаграмаў рыбы. Таксама адзначылі яго і за самую вялікую злоўленую рыбіну – ляшча вагой больш за два кілаграмы.

– Як лічыце, вынік для сябе добры?

– Добры – як гаворыцца, каб усім гэтак.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Антон Каласоўскі.

НАДВОР’Е

## На гэтым тыдні вада ў Нарачы прагрэлася да 26 градусаў

**МЯДЗЕЛ.** Вечарам у аўторак тэмпература вады ў возеры Нарач склала 26,3 градуса. Але гэта не максімальная тэмпература ў гэтым сезоне: 5 ліпеня вада прагрэлася да 27 градусаў, паведаміў начальнік азёрнай станцыі “Нарач” **Васіль Цяляк.**

Раніцай у сераду, 31 ліпеня, тэмпература вады ў Нарачы была 23,1 градуса. Вымяранні праводзяцца на адлеглaсці 30 метраў ад берага.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАШЫ ГРОШЫ

# Колькі каштуе вяселле?


Фота fepcom.net

Вяселле мае два бакі: пачуццёва-рамантычны і матэрыяльна-спусташальны.

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяпер, каб справіць вяселле, трэба выкласці нямала грошай, бо за ўсё трэба плаціць: за ежу, за святло, за ваду і, у нейкім сэнсе, за каханне.**

Карэспандэнтка "РГ" вырашыла скласці каштарыс вясельных выдаткаў і падлічыць, колькі спатрэбіцца грошай, каб справіць вяселле ў Маладзечне.

Першае, пра што думаюць нявесты, – вясельная сукенка, паведаміла нам **Святлана**, у якой якраз на падыходзе вяселле.

## Збіраем нявесту

Пракат сукенкі ў Маладзечне каштуе ад двух з паловай мільёнаў рублёў і вышэй.

Але той, хто хоча зэканоміць, можа паглядзець кошты ў інтэрнэт-крамах, дзе прыгожыя мадэлі вясельных сукенак можна купіць і за 1 мільён 300 тысяч.

Але адной сукенкай тут не абысціся... Трэба і фата, і туфлі, і ўпрыгожванні.

Фату можна купіць, можна пашыць, можна зноў жа звярнуцца па дапамогу да інтэрнэт-крамаў, але абыдзецца гэта прыблізна ў 400 тысяч. Камусьці даражэй, камусьці танней – па запытах і магчымасцях.

Кошт на туфлі ў крамах горада пры ўдалым збегу абставін можа быць у раёне 400-500 тысяч рублёў. Па словах нявест, пераважна на вясельны абутак і ўпрыгожванні ідзе больш за мільён рублёў.

Кошт падвязак вагаецца ад 35 да 110 тысяч. Панчохі можна купіць прыкладна за 60 тысяч рублёў. Да таго, трэба надаць увагу і бялізну і споднюю бялізну.

А прычоска з макіяжам, а манікюр з педыкюрам! Макіяж у спецыяліста ў Маладзечне ў сярэднім "забярэ" з вашага кашалька прыблізна 200 тысяч. За прычоску для нявесты прыйдзецца аддаць каля трохсот тысяч. Гэта пры ўмове, што дзяўчыне не трэба фарбаваць і стрыгчы валасы. У адваротным выпадку неабходна аддаць яшчэ пару сотняў рублёў. За манікюр і педыкюр трэба заплаціць прыкладна 300-350 тысяч.

## Збіраем жаніха

Касцюм жаніха ў сярэднім каштуе прыкладна два мільёны рублёў. Вядома, да касцюма трэба набыць сарочку, гальштук, запінкі і туфлі. Кошт туфляў у сярэднім 800 тысяч.

Жаніху ж трэба набыць і букет для нявесты, кошт якога вагаецца ў залежнасці ад кветак, якія ўваходзяць у букет. Калі, напрыклад, ружы, то пойдзе каля 600 тысяч рублёў. Калі архідэі, то каля аднаго мільёна. У любым выпадку ў сярэднім арыентавацца трэба на тысяч васемсот беларускіх рублёў.

## Пярсцёнкі

Пярсцёнкі абыдуцца маладым прыблізна ў чатыры мільёны рублёў. Плюс-мінус да гэтай сумы ў залежнасці ад мадэляў. Варта звяртаць увагу ў ювелірных крамах на скідкі на заручальныя пярсцёнкі.

Можна вырабіць пярсцёнкі і пад заказ, у гэтым выпадку іх кошт будзе агаворвацца індывідуальна з майстрам.

## Машыны

Добра, калі ёсць знаёмыя, у якіх шыкоўныя машыны, а вось калі не... Сярэдні кошт пракату лімузіна ў Маладзечне за гадзіну каля 700 тысяч рублёў, а кадзілака – 900 тысяч. Але ў ім лазернае абсталяванне і міні-бар.

## Вядучы + фатограф + відэааператар

Фатографаў сёння, вядома, вельмі шмат: і аматары, і прафесіяналы. Тут галоўнае зарыентавацца, што вам важней: менш заплаціць і атрымаць звычайныя фотаздымкі або атрымаць сапраўды добрыя фота.

З тамадой сітуацыя больш складаная, бо ад гэтага чалавека залежыць атмасфера за ўсё ўрачыстае мерапрыемства. І памыліцца з ім – гэта вялікія страты для ўсяго вяселля.

Тамада абыдзецца ад трох мільёнаў. Знакаміты і раскручаны будзе яшчэ даражэйшы.

Відэаздымка абыдзецца столькі ж, колькі і тамада. А калі заказваць здымку вышэйшай якасці, то за гэта прыйдзецца заплаціць прыкладна тры з паловай мільёны за адзін дзень.

## Банкет

Сярэдні кошт па Маладзечне на аднаго чалавека ў кафэ ці рэстаранах – 450 тысяч рублёў. У залежнасці ад установы ў гэтую суму альбо ўваходзіць, альбо не ўваходзіць арэнда памяшкання.

Гэта значыць, калі вяселле, напрыклад, на 60 чалавек, то 450 x 60 = 27 мільёнаў рублёў.

Танней можа абысціся арэнда школьнай сталовай. За яе трэба будзе заплаціць прыкладна 500 тысяч рублёў. Але тады неабходна самім купляць прадукты і заказваць повара. Повар бярэ каля трыццаці тысяч за аднаго чалавека. І гэта толькі за прыгатаванне ежы.

## Упрыгожванне залы

У сярэднім за ўпрыгожванне залы ваш кашалёк пахудзее на два мільёны. Часта гэта сума залежыць ад колькасці запрошаных.

Напрыклад, упрыгожыць адно крэсла каштуе восем тысяч, стол маладых – 600, а танцпадлогу – 720 тысяч рублёў. Жывыя кветкі ва ўпрыгожваннях аўтаматычна павялічваюць гэтую лічбу ў дзясяткі разоў.

## Феервек

Заказаць феерверк на вяселле ў Маладзечне каштуе ад 1 мільёна 300 рублёў, і гэта яшчэ самы танны. Можна заказаць феерверк і ў два разы даражэйшы.

Агульны вынік нашых сярэдніх падлікаў грошай на вяселле на 60 чалавек: мінімальны – 23 мільёны 800 тысяч рублёў, але гэта не ўлічваючы прадукты, алкаголь і садавіну. Максімальны кошт вяселля, якое спраўляюць у рэстаране, складае прыкладна 54 мільёны рублёў. Можна разгуляцца і на большае…

І гэта без грошай на паветраныя нябесныя ліхтарыкі, якія сталі так папулярныя ў апошні час, без грошай на падарункі, якімі адорвае нявеста бліжэйшых сваякоў жаніха. Без шмат таго, што, як кажуць у нас, "па дробязі".



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

**Табліца коштаў:**

| Нявеста | | Жаніх | |
|---|---|---|---|
| | Кошт | | Кошт |
| Сукенка | Ад 1 мільёна 300 тысяч да 2 мільёнаў 300 тысяч | Касцюм | Ад двух мільёнаў рублёў |
| Фата | У сярэднім 400 тысяч рублёў | Сарочка | Ад 300 тысяч рублёў |
| Туфлі і ўпрыгожванні | У сярэднім 1 мільён рублёў | Гальштук альбо бабачка | 80 – 100 тысяч рублёў |
| Падвязка | Ад 35 да 110 тысяч рублёў | Туфлі | 800 тысяч рублёў |
| Панчохі | 60 тысяч рублёў | Рэмень | 80 – 100 тысяч рублёў |
| Бялізна | 500 тысяч рублёў | Упрыгожванні (запінкі, зацiск) | Ад 180 да 800 тысяч рублёў |
| Прычоска | 300 тысяч рублёў | | |
| Макіяж | 200 тысяч рублёў | | |
| Манікюр | 180 тысяч рублёў | | |
| Педыкюр | Ад 140 тысяч рублёў | | |
| Сабраць нявесту каштуе ад 4 мільёнаў 150 тысяч да 5 мільёнаў 400 тысяч | | Сабраць жаніха каштуе ад 3 мільёнаў 400 тысяч да 4 мільёнаў 100 тысяч | |
| Букет для нявесты | | Ад 800 тысяч да 1 мільёна рублёў | |

| | |
|---|---|
| Пярсцёнкі | У сярэднім 4 мільёны рублёў |
| Пракат машыны (за адну гадзіну) | Ад 700 да 900 тысяч рублёў |
| Тамада | Тры мільёны рублёў |
| Фатограф | У сярэднім ад 2 мільёнаў 400 тысяч рублёў |
| Відэааператар | Ад трох да трох з паловай мільёнаў рублёў |
| Сума (сярэдні кошт): амаль 4 мільёны рублёў | Сума (сярэдні кошт): амаль 3 мільёны 200 тысяч рублёў |
| Банкет | |
| У рэстаране (за аднаго чалавека) | У сярэднім 450 тысяч рублёў |
| Арэнда школьнай сталовай | Ад 500 тысяч рублёў |
| Повар (за аднаго чалавека) | Каля 30 тысяч рублёў |
| Іншыя выдаткі | |
| Упрыгожванне залы | У сярэдні 1 мільён 800 тысяч рублёў |
| Феерверк | Ад 1 мільёна 300 да 2 мільёнаў 600 тысяч |
| Мінімальны кошт (не ўлічваючы ежу, алкаголь і садавіну) | Максімальны кошт |
| 23 мільёны 800 тысяч рублёў | 54 мільёны рублёў |

| Курсы валют НБ РБ | 25.07 | 1.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 850,00 | **8 880,00** |
| Еўра | 11 720,00 | **11 780,00** |
| Злоты | 2 785,47 | **2 782,52** |
| Літ | 3 393,47 | **3 419,07** |
| Расійскі рубель | 273,50 | **269,00** |
| Грыўня | 1 087,96 | **1 094,00** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8860/8970 | **8860/8920** |
| Еўра | 11710/11850 | **11750/11850** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 24.07 | 31.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 118000 | **120900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45500 | **45050** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 83000 | **84000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25900 | **26300** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 24000 | **24000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28000 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10100 | **9900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **10100** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 8900 | **9000** |
| **Алей** | 14900 | **16200** |
| **Маянэз**, 200 г | 5200 | **5200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9700 | **9700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **7300** |
| **Капуста**, 1 кг | 4500 | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | 13500 | **8000** |
| **Буракі**, 1 кг | 8000 | **7000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 24000 | **23000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 7500 | **8500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Перац**, 1 кг | 12000 | **11500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 29000 | **23000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **12500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 12500 | **12000** |
| **Грушы**, 1 кг | 22000 | **20000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 5000 | **3000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

■ КРЫМІНАЛ

# Выпіў і накінуўся на маці з качаргой

**ВІЛЕЙКА. 35-гадовы жыхар вёскі Даўгінава затрыманы ў замаху на забойства. Прычым пазбавіць жыцця ён хацеў родную маці.**

– Мужчына нідзе не працуе, жыве на пенсію маці і выпадковыя падпрацоўкі, – кажа намеснік начальніка вілейскага аддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. – У яго скончыліся грошы, і ён пачаў прасіць у маці, каб яна дала на бутэльку. Тая адмовіла. З-за гэтага паміж імі пачалася сварка.

У парыве гневу сын пачаў біць сваю 62-гадовую маці. Спачатку рукамі, а потым схапіў качаргу. Пасля ўгаманіўся і выйшаў з хаты.

Але на гэтым гісторыя не скончылася. На другі дзень мужчыну, мабыць, захацелася пахмяліцца, і ён стаў патрабаваць у маці грошы. Пачалася сварка. Мужчына не вытрымаў і пачаў зноў біць сваю маці драўлянай качалкай, потым знайшоў у яе 250 тысяч рублёў і забраў іх.

Прайшло некалькі дзён. Жанчыне стала дрэнна. Яна звярнулася па дапамогу да суседзяў. Тыя выклікалі "хуткую", якая забрала яе ў бальніцу. Доктару жанчына расказала, з-за чаго яе збіў сын, і ён патэлефанаваў у міліцыю і ўсё расказаў.

Цяпер мужчына знаходзіцца ў лячэбным працоўным прафілакторыі. Некалькі гадоў таму яго судзілі за тое, што ён біў маці.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**


Фота dic.academic.ru

Мужчына ў гневе схапіў качаргу і пачаў біць маці.

## Абакралі цырульніцу на працы

**МАЛАДЗЕЧНА. Крадзеж адбыўся ў пятніцу, 26 ліпеня.**

Цырульня знаходзіцца на вуліцы Касманаўтаў у памяшканні інтэрната. Яна належыць 32-гадовай жанчыне, якая працуе ў цырульні адна.

– А дзявятай гадзіне раніцы жанчына, як звычайна, прыйшла на працу, – кажа старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**. – Яна паклала сумачку на стол і вырашыла схадзіць у прыбіральню.

Зайшла, прыкрыла дзверы, але не зачыніла іх. Прыбіральня знаходзіцца ў двух кроках ад самой цырульні, таму зачыняць дзверы палічыла непатрэбным. Пачула нечыя крокі. Зразумела, што прыйшоў нейкі кліент, і адразу выйшла.

Убачыўшы мужчыну, які выходзіў з цырульні, спыталася: "Вы падстрыгчыся хочаце?" Але мужчына, хаваючы свой твар, адмовіўся.

Цырульніца паглядзела, што ноўтбук і шкатулка, у якой былі грошы, на месцы.

Потым ёй трэба было адлучыцца па справах. Яна ўзяла сумачку, зачыніла дзверы і пайшла. Калі адчыніла сумачку, заўважыла, што няма кашалька. У ім было 550 тысяч рублёў і сярэбраны ланцужок.

Жанчына адразу зразумела, што гэта быў той дзіўны мужчына, які адмовіўся падстрыгацца. Яна звярнулася ў міліцыю і апісала, як ён выглядаў.

Гэты злодзей вельмі падобны да чалавека, якога чатыры месяцы ўжо шукае міліцыя.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ ПРАКУРАТУРА, СУД

## Звольнілі і не хочуць разлічвацца?

**ВІЛЕЙКА. Часам пра парушэнні працоўных правоў работнікаў становіцца вядома падчас рашэння праблем, з якімі звяртаюцца людзі ў пракуратуру.**

Сёлета ў сакавіку звярнуўся жыхар з просьбай дапамагчы атрымаць канчатковы разлік пры звальненні з ТАА "Влажен". Па загадзе дырэктара яго звольнілі з працы сёлета 12 лютага. На момант звальнення наймальнік выплаціў толькі частку патрэбнай сумы.

Канчатковы разлік правялі толькі падчас праверкі па звароце. Між тым, згодна з Працоўным кодэксам Беларусі, пры звальненні работніка ўсе выплаты наймальнік павінен правесці ў дзень звальнення.

За парушэнне дзейснага працоўнага заканадаўства дырэктар ТАА "Влажен" пастановай пракурора раёна быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. Ён выплаціў штраф памерам чатыры базавыя велічыні.

Дарэчы, прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці – гэта не ўсе негатыўныя наступствы, якія чакаюць наймальніка, калі ён спрабуе адтэрмінаваць момант канчатковага разліку са звольненым работнікам.

### Работнік мае права

Пры звальненні, у выпадку нявыплаты па віне наймальніка належных сум, работнік мае права спаганяць з яго сярэдні заробак за кожны дзень іх затрымкі. А ў выпадку нявыплаты часткі сумы – прапарцыйна нявыплачаным грошам.

Пры гэтым пры звароце ў суд з такой праблемай грамадзяне вызваляюцца ад выплаты дзяржпошліны.

### Заяўнікі могуць памыляцца

Часам і заяўнікі памыляюцца, сцвярджаючы, што наймальнік зрабіў несвоечасовы разлік пры звальненні.

У Працоўным кодэксе прапісана, што калі работнік у дзень звальнення не працаваў, то адпаведныя выплаты павінны быць зроблены не пазней за наступны дзень пасля прад'яўлення ім патрабавання на разлік.

На практыцы патрабаванне аб разліку лепш прад'яўляць наймальніку ў пісьмовым выглядзе з указаннем даты. Гэта дазволіць у далейшым зняць многія пытанні аб своечасовасці ці несвоечасовасці разліку.

**Дар'я ХАДАРОВІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

■ ВЫПАДКІ

## Згвалцілі дзяўчыну

**ВІЛЕЙКА. Гэта здарылася ў нядзелю, 28 ліпеня.**

– А шостай гадзіне раніцы 17-гадовая вілейчанка ішла на чыгуначны прыпынак "Зеніт", – кажа намеснік начальніка Вілейскага следчага камітэта **Яўген Мягкоў**. – На падыходзе да прыпынку яе дагнаў незнаёмы мужчына і пачаў прымяняць да яе гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару.

Гвалтаўнік пакуль не затрыманы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## П'янага кіроўцу спыніў папераджальны стрэл

**МЯДЗЕЛ. 28 ліпеня нарад дарожна-патрульнай службы аддзялення ДАІ Мядзельскага РАУС нёс службу на дарозе Браслаў-Паставы-Мядзел паблізу вёскі Кабайлы.**

Каля 15 гадзін супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі заўважылі аўтамашыну ВАЗ-2107, якая рухалася з перавышэннем хуткасці.

Патрабаванні аб спыненні руху кіроўца праігнараваў.

Аўтамабіль пераследавалі хвілін пятнаццаць з уключанымі маякамі і выкарыстаннем гучнагаварыцеля. На гэта кіроўца аўтамашыны не рэагаваў. І тады інспектар дарожна-патрульнай службы ўзяў табельную зброю і зрабіў папераджальны стрэл уверх, паведаміў начальнік аддзялення ДАІ Мядзельскага РАУС **Вадзім Лёвін**. Кіроўцу затрымалі, калі ён кінуў машыну і спрабаваў збегчы.

Гэта быў непрацуючы 21-гадовы жыхар вёскі Лотва. Ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення – у крыві было аж 3,2 праміле алкаголю.

Мужчына быў пазбаўлены права кіравання аўтамабілем: у 2012 годзе здзейсніў дарожна-транспартнае здарэнне, пасля чаго спрабаваў уцячы, але быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ.

**Аддзел інфармацыі.**

■ СЛУЖБА 101

## Чатырохгадовы хлопчык падпаліў суседскі хлеў

**ВІЛЕЙКА. Пажар здарыўся ў вёсцы Лыцавічы 29 ліпеня а шостай гадзіне вечара.**

– Чатырохгадовы хлопчык па неасцярожнасці падпаліў суседскі хлеў, – кажа інспектар Дзяржпажнагляду Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Пра тое, што хлопчык бегаў з запалкамі, выратавальнікам расказаў яго чатырохгадовы сябар. Як запалкі аказаліся ў дзіцяці, пакуль невядома.

Дзеці без нагляду бацькоў гулялі ў двары. У нейкі момант і загарэўся хлеў.

Выратавальнікі, якіх выклікала суседка, досыць хутка справіліся з агнём.

Дзецям і іх бацькам супрацоўнікі МНС прачыталі лекцыю аб пажарнай бяспецы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

■ ПАСЛЯ АПУБЛІКАВАНАГА

## Аператыўная інфармацыя ўдакладненая

**МАЛАДЗЕЧНА. "На Мінshчыне тоне кожны 10-тысячны". Матэрыял пад такой назвай выйшаў у 27 нумары "РГ" за 5 ліпеня.**

У ім узгадвалася трагічнае здарэнне 12 мая ў Ласях, у выніку загінула 22-гадовая жанчына.

На момант публікацыі была вядомая толькі аператыўная інфармацыя, якая не была дакладная. Цяпер Следчы камітэт высветліў, што пацярпелая была жыхаркай Мінска, працавала на адным з чысцінскіх прадпрыемстваў.

Жанчына была цвярозая. Да яе ў стане алкагольнага ап'янення прыехаў падазраваны. Узнікла сварка і здарылася няшчасце.

Зараз следства высвятляе іншыя абставіны здарэння.

**Рэдакцыя "РГ".**

ПРАЕКТ

# На сацыяльнай дачы можна адпачыць

**ВІЛЕЙКА. Улетку дом у аграгарадку Вязынь ператварыўся ў дачу. І не простую, а сацыяльную, разлічаную на адпачынак пенсіянераў і інвалідаў.**

У інтэрв'ю нашаму выданню спецыяліст па сацыяльнай рабоце Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Марына Макарава** расказала, як узнік праект і як ён ажыццяўляецца. Парадавалася, што на сацыяльнай дачы людзі не толькі адпачываюць, а і знаходзяць новых сяброў.

**– Як узнік праект “Сацыяльная дача”?**

– Гэта была ідэя кіраўніцтва цэнтра. Справа ў тым, што ў гэтым будынку функцыянуе дом сезоннага знаходжання. Але з 15 красавіка па 15 кастрычніка практычна пуставаў, тут толькі арганізоўвалі сустрэчы валанцёраў з Вязыні, ён функцыянаваў як клубны дом. Нам хацелася, каб дом не пуставаў, быў задзейнічаны пастаянна.

Кіраўніцтва вырашыла апрабаваць ідэю “Сацыяльнай дачы”. У Беларусі яна не мае аналагаў. Толькі ў Расіі ёсць падобныя праекты сацыяльных дач, але яны арганізаваныя зусім у іншых умовах. Напачатку мы правялі апытанне сярод актыўных удзельнікаў клубаў і гурткоў, якія працуюць пры нашым цэнтры і на базе Палаца культуры. Спыталі: “Як вы лічыце, ці маюць жаданне жыхары горада паехаць на вёску да Вілейскага вадасховішча ўлетку, пазбіраць ягады, грыбы?” Атрымалі станоўчы водгук, больш таго – з’явіліся людзі, якія адразу захацелі паехаць. Таму вырашылі запусціць пілотны праект.

**– І як ён ажыццяўляецца?**

– На мой погляд, праект удаўся ў тым плане, што ёсць дастаткова добры рэзананс, ахвотных прыняць удзел хапае, існуе чарга. Вось сёння прыходзіла жанчына, хацела б з мужам паехаць, каб у лес пахадзіць і проста адпачыць на беразе вадасховішча, а муж мог і парыбачыць. Праект разлічаны не толькі на пажылых грамадзян, а і на сем’і, дзе выхоўваюцца і жывуць інваліды. Яны змогуць адпачыць пасля 15 жніўня.

**– А як з аплатай?**

– У прынцыпе, паслуга бясплатная. Жыхары толькі аплачваюць за ваду, камунальныя паслугі, электраэнергію, тэлефон – удзень атрымліваецца каля шасці тысяч. Намі арганізаваны падвоз з горада за кошт сродкаў нашага цэнтра. Пакуль ідзе апрабацыя, прыцягваем таксама жыхароў іншых раёнаў. Вось і цяпер жыве жанчына з Маладзечна.

**– Колькі дзён можна пажыць на сацыяльнай дачы?**

– З трох да пятнаццаці дзён. Адзін чалавек так захапіўся адпачынкам, што хоча яшчэ застацца на колькі дзён.

**– Колькі чалавек скарысталіся такой паслугай?**

– Ужо сем чалавек. Дом разлічаны на шэсць месцаў. Але так як людзі розныя, псіхалагічна цяжка адразу жыць шасці зусім чужым людзям. То аптымальны варыянт – чатыры чалавекі.

**– Гэта гарадскія пенсіянеры…**

– Так. Праект накіраваны на ўдзел гараджан, у якіх няма дачы, участка, няма магчымасці ў сілу свайго здароўя выехаць на вадасховішча. А там яно блізка. У Вязыні добрая інфраструктура: крамы, ФАП, Цэнтр культуры і вольнага часу. Калі людзі веруючыя, могуць схадзіць у царкву.

**– Скажыце, калі ласка, якія цікавыя водгукі паступалі?**

– Калі выязджаюць жыхары, праводзім такое міні-апытанне: спадабалася ці не, ці павінен такі праект існаваць. Большасць лічыць, што ён патрэбны, і будуць раіць сваім блізкім, што гэта сапраўды даступны адпачынак для пенсіянераў. У прынцыпе, жыццё ў сельскай мясцовасці, свежае паветра, асабліва ля вады, паляпшае самаадчуванне і здароўе. Людзі кажуць, што нават за невялікі перыяд сталі адчуваць сябе лепей, больш камфортна.

**– Што вас уразіла падчас ажыццяўлення гэтага праекта?**

– Калі гэтыя людзі сустракаюцца – яны зусім чужыя, не ведаюць адзін аднаго. А ад’язджаюць такімі акрыленымі, становяцца добрымі знаёмымі, тэлефануюць адзін аднаму. Такі адпачынак дае не толькі нейкае фізічнае паляпшэнне, але і дорыць новых знаёмых, добрых сяброў. Мне здаецца, гэта – цудоўна.

**Гутарыў Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Ірынай ЧАБАТАР.

Ахвотным даспадобы адпачынак на сацыяльнай дачы.

САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА

# Ці пахаваюць, як належыць?

**У апошні час вельмі многа пенсіянераў сталі звяртацца ў фонды сацыяльнай абароны насельніцтва, у ЗАГСы з пытаннямі аб тым, чаму адмянілі выплаты на пахаванні.**

Натуральна, што сталыя людзі клапоцяцца, каб у гэтай справе было ўсё, як належыць.

Работнікі гэтых устаноў тлумачаць, што гэта чуткі, што ў законе Рэспублікі Беларусь ад 12 лістапада 2001 года “Аб пахаванні і пахавальнай справе” нічога не змянілася. Аднак людзі больш вераць чуткам, чым дакументам.

Сітуацыю пракаментавала начальнік мядзельскага раённага аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва **Ірына Лукашэвіч**: “З такімі пытаннямі людзі звяртаюцца ледзьве не кожны дзень. Прыходзіцца тлумачыць, што ў законе нічога не змянілі, нават паказваць дакументы. Толькі пасля гэтага людзі больш-менш супакойваюцца. Прычыну такога ўсплёску мы нават не можам растлумачыць”.

## Хто можа разлічваць на дапамогу?

У групу тых, хто можа разлічваць на дапамогу, уваходзяць:

асобы, якія выплачвалі страхавыя ўзносы;

пенсіянеры, якія атрымлівалі пенсію са сродкаў дзяржаўнага і сацыяльнага страхавання;

дзеці, якія не дасягнулі васемнаццаці гадоў, навучэнцы 23-гадовага ўзросту.

Беспрацоўныя, зарэгістраваныя ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, а таксама гарадскіх, раённых выканаўчых камітэтаў.

## Якой будзе дапамога?

Дапамога на пахаванне выплачваецца ў памеры сярэдняга заробку за пазамінулы месяц адносна месяца смерці.

Калі памерлы ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны ці асоба, якая мела асаблівыя заслугі перад краінай, аказваецца ў памеры двухмесячнай сумы назначанай яму пенсіі, але не менш за сярэдні заробак.

Дапамога не аказваецца, калі пахаванне наладжанае за сродкі дзяржавы.

Зварот па матэрыяльную дапамогу можа ажыццяўляцца на працягу шасці месяцаў.

Памер вызначаецца ў дзень смерці. Калі пахаванне адбывалася пазней вызначанага тэрміну, то ў дзень пахавання на аснове дакументаў, якія пацвярджаюць гэты факт.

Перавод матэрыяльнай дапамогі на пахаванне за межы Рэспублікі Беларусь не ажыццяўляецца.

Калі сумы налічаных страхавых унёскаў недастатковыя для выплаты дапамогі на пахаванне, то органы фонду пералічваюць недастатковыя сродкі на іх выплату.

Нагадаем, што, згодна з законам “Аб пахаванні і пахавальнай справе”, матэрыяльная дапамога выплачваецца фізічнай асобе, якая ўзяла на сябе арганізацыю пахавання.

У выніку смерці дзіцяці, яе даюць аднаму з бацькоў (усынаўляльнікаў), апекуну ці іншай фізічнай асобе, якая ўзяла на сябе арганізацыю пахавання.

## Дзе атрымаць матэрыяльную дапамогу?

Калі памерла асоба, на якую распаўсюджваецца дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, выплату можна атрымаць па месцы працы.

Калі памірае дзіця, грошы налічваюцца на месца работы бацькоў (усынаўляльнікаў), апекуноў.

## Збіраем дакументы

Прывядзём пералік дакументаў, неабходных для прызначэння дапамогі:

- Заява асобы, якая ўзяла на сябе арганізацыю пахавання.
- Пашпарт ці іншы дакумент, які пацвярджае асобу заяўляльніка.
- Пасведчанне аб смерці.
- Пасведчанне аб нараджэнні (у выпадку смерці дзіцяці).
- Даведка з месца вучобы, калі маладому чалавеку ці дзяўчыне няма 23 гадоў.

**Галіна СІНІЦА.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# На 150 метраў дарогі – 193 яміны

**МАЛАДЗЕЧНА. Праблема дваровага праезду ўздоўж гімназіі №6 у накірунку да “Космасу”, на стан якога скардзіліся нашы чытачы, закранալася ў папярэдніх нумарах “Рэгіянальнай газеты”.**

14 ліпеня мы адаслалі ў “Камунальнік” ліст , дзе прасілі праінфармаваць рэдакцыю аб тэрмінах прывядзення ў належны стан гэтага праезду.

У мінулым нумары, калі адказ дырэктара УП "Камунальнік" **Мікалая Наздрына-Платніцкага** ў наш адрас рыхтаваўся, мы апублікавалі інтэрв’ю з ім.

29 ліпеня нам прыйшоў афіцыйны адказ:

*“Згодна з зацверджаным тытульным спісам і графікам фінансавання, пачатак прац па аб’екце “Капітальны рамонт пешаходна-транспартнай сувязі паміж вуліцамі Касманаўтаў і Багдана Хмяльніцкага ў горадзе Маладзечна” запланаваны на 3–4 квартал 2013 года (ад ліпеня па снежань – рэд.).*

*У цяперашні час абвешчаны электронны аўкцыён па выбары падрадчыка для правядзення будаўніча-мантажных работ.*

***Дырэктар М.П. Наздрын-Платніцкі”.***

**Аддзел інфармацыі.**

АДПАЧЫНАК

# Свята возера па-мядзельску



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Пеннае шоу даспадобы юным мядзяльчанам.

**МЯДЗЕЛ. Штогод улетку ў Мядзеле ладзіцца вялікае свята. Раней былі святы рыбы, вады, а сёлета – свята возера. Прайшло яно 27 ліпеня на гарадскім пляжы ля возера Мястра.**

Людзей тут сабралася багата: мядзяльчане, госці азёрнага краю ды і многія ўраджэнцы райцэнтра якраз падгадваюць свой візіт на малую радзіму да гэтага свята.

Забаў для іх было шмат: на пляжнай тэрыторыі прапрацавалі аж пяць пляцовак. І ўздоўж дарогі месца не пуставала – тут размясціліся гандляры з пачастункамі, цацкамі і нават такім нечаканым таварам для сярэдзіны лета, як валёнкі.

Разнастайныя вырабы прывезлі на свята народныя майстры з Мядзельскага, Маладзечанскага, Валожынскага і іншых раёнаў. А найбольшым попытам, здаецца, карысталіся саламяныя кветкі – многія госці свята праходжваліся з імі. Шмат было сувеніраў з нарачанскай тэматыкай – ад магніцікаў да кубкаў і талерак.

А на сцэнічнай пляцоўцы тым часам адбывалася тэатралізаванае адкрыццё свята – дзяўчаты інсцэніравалі паданне пра Нарач. Потым гледачы пабачылі выступленні дзяцей, якія адпачываюць у Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня". Наладзілі яны яркае шоу з песнямі і танцамі ў прыгожых строях. Яшчэ ў гэты дзень па-над возерам разносіліся песні мастацкіх калектываў, аўтара і выканаўцы Сяргея Наско, спявачкі Вольгі Плотнікавай.

А для прадстаўнікоў юнага пакалення шмат цікавага было на пляцоўцы "Дзіцячыя пацешкі". Хлопчыкі і дзяўчынкі ўдзельнічалі ў разнастайных конкурсах, і многія былі звязаныя з азёрнай тэматыкай: напрыклад, трэба было рыбку на магнітах злавіць. А ля возера дзятва захоплена ствarала з пяску замкі (вядома ж, бралі за ўзор мядзельскі).

Госці свята фатаграфаваліся з фанернымі фігурамі: вадзяным, русалкай, залатой рыбкай... Усяго паставілі восем такіх персанажаў, так што выбар быў, з кім зняцца на фота. А тыя, хто пажадаў мець на памяць пра свята нешта больш цікавае, чым звычайнае фота, замаўлялі свой партрэт у мастака.

Забаўлялі ўдзельнікаў свята рыцары і іх дамы сэрца. Праводзілі яны майстар-клас па сярэдневяковых танцах. І калі адразу мядзяльчан давялося ўпрошваць, каб далучыліся да танцаў, то потым ахвотных станавілася ўсё больш. Ды і гук быў жывы – танцавалі пад дудальзак (нямецкую разнавіднасць дуды). Можна было паспрабаваць сябе ў тагачасных гульнях, а то і з рыцарам падужацца – вядома, не з сапраўднымі мячамі. Дзеці выстройваліся ў чаргу, каб кінуць дроцікі, баявую сякеру, дзіду. Крыху далей было выпрабаванне больш сур'ёзнае – выстраліць з лука альбо арбалета ды ў мішэнь пацэліць.

На свяце было безліч забаў для дзяцей – шматлікія надзіманыя атракцыёны, батуты, электрамабілі, катанне на поні... Але дзятва з досведу мінулых гадоў ведала, што не абыходзіцца падобнае свята ў Мядзеле без водна-пеннага шоу. І дачакалася. Уволю паваляўшыся ў пене, маглі асвяжыцца пад струменямі вады, якія ляцелі ў вышыню і ўбок. А хто і спрабаваў, ці далёка магутны струмень закіне іх шлёпанец.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПРАФМАЙСТЭРСТВА

## Лепшая даярка выхоўвае восем дзяцей



Фота забяспечана Уладзімірам САЛАНЕНКАМ.

Асноўная намінацыя раённага конкурсу прафесійнага майстэрства "лепшы аператар машыннага даення".

**МАЛАДЗЕЧНА. У раёне 26 ліпеня выбралі лепшага аператара машыннага даення. У конкурсе прафесійнага майстэрства прымалі ўдзел 14 чалавек з розных гаспадарак.**

Сярод удзельнікаў былі выключна жанчыны, хаця раней пару разоў асмельваліся паспаборнічаць з імі ў майстэрстве дойкі і мужчыны. Нямала прыехала на конкурс моладзі – прыкладна палова была ўзростам да 31 года.

– Падобны конкурс праводзім у сёмы раз, – паведаміў старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК **Уладзімір Саланенка.** – І кожны раз стараемся правесці яго ў іншай гаспадарцы. Па-першае, гэта і для вёскі свята, і на добраўпарадкаванне фермы асаблівая ўвага звяртаецца.

Конкурс складаўся з чатырох этапаў. Напачатку ў Доме культуры ў вёсцы Гарадок удзельніцы паказалі "візітоўку": прадстаўлялі сябе, спявалі, танцавалі. Гледачы маглі даведацца і пра захапленні жанчын: хто тарты смачныя пячэ, хто вышыўкі прыгожыя ствараe. Потым яны пісьмова адказвалі на тэарэтычныя пытанні, дэманстравалі ўменне збіраць і разбіраць даільныя ўстаноўкі.

А ўжо тое, як яны умеюць спраўна даіць кароў, удзельніцы паказалі на ферме "Пажарышча" прадпрыемства "Сасноўка-Агра". Журы сачыла, каб усё было зроблена па тэхналогіі, якасць малака была адпаведнай.

Па выніках конкурсу ніводная з даярак не засталася без падарункаў. Падрыхтавалі іх раённы і абласны камітэты прафсаюза работнікаў АПК, аддзелы ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, Маладзечанскі малочны камбінат.

Перамагла ў конкурсе прадстаўніца таварыства "Заскавічы" **Вера Бабей**. Пераможца атрымала чайны сервіз ручной работы. Адметны факт: у сям'і Веры Бабей выхоўваецца пяцёра сваіх дзетак і трое прыёмных.

На другім месцы – **Марыя Цімошка** з прадпрыемства "Бярэзіна-аграпрадукт", трэцяе месца – у **Наталлі Гурэцкай** з "Сасноўкі-Агра". Прызам "За волю да перамогі" адзначаная **Юлія Жырнель** з таварыства "Хоўхлава". Павіншаваў прызёраў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення райсельгасхарчу **Генадзь Бажко**.

– Сёлета ў конкурсе не было яўнага лідара: з палову ўдзельніц маглі прэтэндаваць на перамогу, – падкрэсліў Уладзімір Саланенка.

– На ваш погляд, такі конкурс патрэбны?

– Так. Ён у нейкай ступені ўздымае прэстыж працы жывёлавода. Людзі могуць пабачыць, што на фермах працуюць абаяльныя жанчыны. Яны не толькі кароў даіць могуць, але і на сцэне цудоўна выступіць: праспяваць, станцаваць. Па-другое, час не стаіць не месцы, мяняюцца тэхналогіі. Стараемся даярак пазнаёміць, як абыходзіцца з сучасным абсталяваннем.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МУЗЕІ

## Манетны скарб з берага Сэрвачы

**ВІЛЕЙКА. Прадоўжым знаёмства з найцікавейшымі экспанатамі Вілейскага краязнаўчага музея. Сёння ад старшага навуковага супрацоўніка Вольгі Коласавай даведаемся пра сапраўдны скарб:**

"На што абавязкова звяртаюць увагу нашы наведнікі – вось на гэты манетны скарб. Знойдзены ён у 1976 годзе каля Касцяневічаў. Там недалёка рака Сэрвач, прыток Віліі. Чаму я кажу: "Не шукайце скарбы каля поля ці лесу – там амаль не знойдзеце. Шукайце скарбы па берагах рэк". Таму што рэкі раней былі асноўнымі гандлёвымі шляхамі. Сярод іх наша Вілія і яе прытокі. Невыпадкова гэты скарб знойдзены на беразе ракі Сэрвач.

У гэтым скарбе каля тысячы манет: грошы, соліды, трохграшовікі. Цікава, што тут знаходзіцца шмат фальшывых манет: ужо на той час былі кустары-фальшываманетчыкі, якія падраблялі грошы.

У скарбе ляжалі два срэбныя пярсцёнкі і дзве срэбныя манеты 16 стагоддзя. На іх упершыню выбіты вяршок з капʼём – адкуль і пайшла назва капейка. У зале мы іх не бачым, таму што для гэтых экспанатаў патрабуюцца асаблівыя ўмовы экспанавання і захоўвання".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Манетны скарб з-пад Касцяневічаў.

# "Дзяржаўная граніца": працяг будзе

### На Смаргоншчыне здымаюць працяг савецкага серыяла

**На мяжы з Літвой нас не затрымалі. Ніхто нават не глянуў на наш легкавічок, памежнікі збіліся ў кутку пад застрэшкам старога млыну і адаграваліся гарачай кавай: дождж ліў як з вядра, на двары – золка і няўтульна.**

Але не дождж стаў прычынай таго, што на мяжы нас не затрымалі, хоць вялізны плакат і заклікаў да ўвагі: тут, маўляў, мяжа.

Проста дзяржаўная мяжа ў аграгарадку Жодзішкі на Смаргоншчыне – не сапраўдная, а, так бы мовіць, кіношная, і існавала яна ўсяго пяць дзён – з 22 па 26 ліпеня. У гэты час Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" здымала ў Жодзішках эпізоды чарговага фільма з тэлецыкла "Дзяржаўная граніца". Рабочая назва фільма – "Апошні шпіён", а канчатковы варыянт назвы, як паведаміла дырэктар здымачнай групы **Таццяна Пятрова**, хутчэй за ўсё, будзе "Новы час".

– Але назва пакуль не зацверджаная, – удакладніла Таццяна Пятрова.

Рэжысёр новай двухсерыйнай кінастужкі – **Ігар Чацверыкоў**.




Адна "актрыса", жодзішкаўская рагуля, закончыла здымкі, і цяпер гаспадыня вядзе яе дадому.

**Даведка "РГ".** Ваенна-гістарычны серыял "Дзяржаўная граніца" быў зняты цягам 1980-1988 гадоў у Савецкім Саюзе. Ён складаецца з васьмі двухсерыйных фільмаў, якія расказваюць аб станаўленні і развіцці памежнай аховы былога Савецкага Саюза. Новы фільм з рабочай назвай "Апошні шпіён" – дзявяты з гэтага цыкла.

Дзеянне першага фільма серыяла – ён называецца "Мы наш, мы новы..." – пераносіць нас у 1917-1918 гады. Тады толькі ствараецца памежная служба маладой савецкай дзяржавы.

Падзеі другога фільма "Мірнае лета 21-га года" адбываюцца летам 1921 года на савецка-польскай мяжы, дзе памежнікам давядзецца сутыкнуцца з бандамі белапалякаў.

У трэцім фільме "Усходні рубеж" глядач апынаецца ў 1929 годзе на Далёкім Усходзе.

Чацверты – "Чырвоны пясок" – апавядае пра падзеі 30-х гадоў на мяжы дзяржавы ў Сярэдняй Азіі.

Пяты фільм "Год сорак першы" пераносіць нас у пачатак Вялікай Айчыннай вайны. І першы ўдар фашыстаў прымаюць на сябе памежнікі.

Шосты фільм "За парогам перамогі" – пра падзеі 1946 года на Львоўшчыне.

Сёмы фільм "Салёны вецер" нагадвае пра падзеі ў Прыбалтыйскіх рэспубліках у канцы 1950-х гадоў. Восьмы фільм "На дальнім пагранічча" – аповед пра тое, як на адной з паўднёвых застаў памежнікі перахопліваюць агента заходняй разведкі.

Пра што ж будзе дзявяты фільм з гэтага цыкла, зняты праз 25 гадоў пасля таго, як выйшла на экраны апошняя серыя асноўнага серыяла?

Пра гэта мы і спрабавалі даведацца, пабываўшы на здымачнай пляцоўцы ў Жодзішках.

## Як рагуля з Жодзішак стала кінаактрысай

Дзеянне фільма адбываецца на пачатку 1990-х гадоў. Толькі што развальўся "вялікі і магутны" Савецкі Саюз. На постсавецкай прасторы – неразбярыха і развал. Краіна распадаецца на кавалкі, узнікаюць новыя дзяржавы. Як мяжа паміж Літвой і Беларуссю прайшлася па лёсах людзей, з якімі цяжкасцямі сутыкнулася незалежная Беларусь пры дэмаркацыі мяжы з Літвой – пра гэта новы фільм, які цяпер здымаецца па заказу Міністэрства культуры РБ.

– Ідэя зняць працяг серыяла належыць дырэктару нашай кінастудыі **Алегу Сільвановічу**, – расказвае дырэктар здымачнай групы фільма Таццяна Пятрова. – Ён доўга выношваў гэту ідэю, і нарэшце праект пачаў увасабляцца ў жыццё. Спадзяёмся, што наш фільм гледачу спадабаецца. – Здымкі праходзяць няпроста – заўсёды на здымачнай пляцоўцы шмат рэквізіту і тэхнікі, вельмі шмат масавых сцэн.

Галоўны герой фільма Антон Пякарскі, адслужыўшы дзесяць гадоў на мяжы ў Сярэдняй Азіі, вяртаецца на сваю радзіму ў Беларусь. Менавіта яму даводзіцца ствараць памежную службу ў Беларусі.

– Здымкі пачаліся 14 чэрвеня і закончацца 14 жніўня, – нагадвае Таццяна Пятрова. – За два месяцы мусім адзняць дзве серыі – такі ў нас графік. Не шмат часу адведзена і для мантажу адзнятага матэрыялу.

Большая частка здымак праходзіла ў Мінску. Там мы здымалі сцэны ў кватэры і ў памежным камітэце. На вакзале ў Мінску здымалі ўзбекскі вакзал, з якога ад'язджае на радзіму наш герой. Стараліся стварыць сапраўдную ўсходнюю атмасферу. У Маладзечне ўжо здымалі сцэны на аэрадроме і на чыгуначным вакзале.

Зараз пяць дзён здымаем у Жодзішках. Тут мы здымаем дзеянні, якія адбываюцца на памежным беларуска-літоўскім пасту. Па сцэнарыі трэба было, каб пост абавязкова быў на мосце праз раку і каб мост быў у вёсцы. Захоўвалі гістарычную праўду. Ведаем, што ёсць у Беларусі вёска, якую мяжа падзяліла надвое – палова апынулася на беларускай тэрыторыі, палова – на літоўскай. Вось такую вёску мы і здымаем у Жодзішках – мяжа праходзіць па рацэ, і пост памежны якраз пасярэдзіне вёскі, на мосце. Натуру для здымак шукалі доўга, праехалі шмат мясцін. Напачатку шукалі ля Міра, уздоўж ракі. А знайшлі вось тут, на Смаргоншчыне. Апошні здымачны дзень у Жодзішках – 26 ліпеня. Нападрадзе – адзін здымачны дзень у Мікашэвічах. Там у кар'еры будзем здымаць Узбекістан. Паехаць на натуру ў Сярэднюю Азію – дорага, бюджэт фільма не дазваляе. Знайшлі нешта падобнае ў Мікашэвічах.

Да шостага жніўня працягнуцца здымкі ў мястэчку Нача на Воранаўшчыне. Там здымаем падзеі на памежнай заставе.

**– А на сапраўдных памежных заставах не здымалі?**

– Не, там сакрэтныя аб'екты, да таго ж, яны мала нагадваюць тыя заставы, што былі ў 90-я гады. Першы здымачны дзень на Смаргоншчыне прайшоў насычана і па плане. Мы многа здымалі, а неба, хоць і было пахмурным, ды на дождж так і не нацягнула. А вось 23-га... Дождж ліў з самага ранку. Праўда, мы не надта хваляваліся, у нас былі запланаваныя начныя здымкі – пасля шасці гадзін вечара. Нягледзячы на тое, што сіноптыкі абяцалі пераменную воблачнасць, над Жодзішкамі хмары так і не разышліся і дождж не супыніўся. Але здымкі адмяняць не сталі – графік напружаны, дэкарацыі расстаўленыя. Вось апоўначы на пляцоўку павінен прыехаць **Павел Харланчук-Южакоў**. А **Андрэй Фралоў** – ён у нас у галоўнай ролі здымаецца – і літоўскі акцёр **Томас Жайбус** ужо ў гатэлі.

Сёння ў масавых сцэнах занятыя 50 чалавек, іх мы прывезлі з сабой. Шукаць патрэбныя тыпажы сярод мясцовых жыхароў – справа доўгая і не заўсёды заканчваецца поспехам. Да таго ж, людзі, занятыя ў масавых сцэнах, – таксама акцёры, хоць і не прафесійныя. Але яны павінны ведаць сваю маленькую ролю. Таму мы прывозім удзельнікам масоўкі з сабой з Мінска.

Прынамсі, адна мясцовая "актрыса" ў нас ёсць. Гэта жодзішкаўская рагуля. Справа ў тым, што адна і тая ж карова павінна з'явіцца ў кадры пры здымках у трох розных месцах. Але вазіць яе – турботна і неапраўдана. Таму падбіраем падобных рагуль там, дзе здымаем або будзем здымаць.

З расійскім кінаакцёрам Андрэем Фраловым, які заняты ў галоўнай ролі, мы сустрэліся ў гатэлі ў Смаргоні.

## Андрэй Фралоў: "Беларусь асацыюецца ў мяне з домам".

– Як вам наша лета? – іранізую.

– Надвор'е заўсёды непрадказальнае, – усміхаецца ён. – Але гэта не падстава для песімізму.

На студыі "Беларусьфільм" Андрэй здымаецца другі раз. Першы раз зняўся ў фільме "Смяротны танец" рэжысёра Ігара Чацверыкова у галоўнай ролі агента ФСБ Мікіты Крахіна ў 2012 годзе. Цяпер Ігар Чацверыкоў зноў запрасіў яго ў свой фільм.

Па маёй просьбе Андрэй распавёў аб сваёй творчай біяграфіі.

– Нарадзіўся я ў Калузе. Бацька быў ваенным лётчыкам, і нам давялося часта пераязджаць. Жылі ў Падмаскоўі, у Харкаве, у Чэхаславакіі. Пасля распаду Саюза вярнуліся ў Калугу, на радзіму маці і, уласна, на маю радзіму. Артыстам я хацеў стаць даўно, яшчэ з дзяцінства ў мяне быў чалавек, якога я спрабаваў пераймаць. Памятаеце Палуніна з яго "асісяй"? З дзяцінства я яго мініяцюры спрабаваў

 



адлюстраваць у жыцці. Бацька купіў мне вялікі надзіманы тэлефон. Добра атрымлівалася, усе смяяліся.

Пасля школы хацеў стаць артыстам і сказаў пра гэта сваім, але бацька быў супраць. Сказаў: "Не, будзеш лётчыкам". І я паступіў у Калужскае ваеннае авіяцыйнае вучылішча. Але лётчыкам не стаў, атрымаў спецыяльнасць тэхніка-механіка самалётных і верталётных рухавікоў і раптам зразумеў, што па гэтай спецыяльнасці працаваць не буду. Паехаў у Маскву паступаць у Баўманскае, але душа да прафесіі не ляжала, і я наўмысна здаваў экзамены горш, чым мог, і недабраў балаў. Пайшоў працаваць вадзіцелем. Два гады вазіў прэзідэнта калужскага банка, быў яго асабістым кіроўцам, атрымліваў вельмі добрую зарплату, часам большую за бацьку, чым і ганарыўся. Тады я зразумеў, што фінансава незалежны, пачалося дарослае жыццё. І я сказаў цвёрда: "Прабачце, бацькі, я хачу паспрабаваць стаць акцёрам". І з'ехаў у Маскву. Нікуды не спрабаваў, толькі ў ВГІК. Паступіў з першага разу на бюджэт, і на трэцім курсе – так ужо пашчасціла – стаў здымацца ў кіно.

**– Колькі роляў сыгралі за дзесяць гадоў?**

– Спецыяльна не лічыў, але прыкладна больш за сорак.

**Даведка "РГ".** Расійскі акцёр Андрэй Фралоў зняўся у 43 фільмах і серыялах і ў 23 з іх сыграў галоўныя ролі.

**– Тое, чым вы займаліся да таго, як сталі акцёрам, дапамагло вам у працэсе пераўвасаблення ў сваіх герояў?**

– Несумненна. У адным з фільмаў я выконваў ролю вадзіцеля аўтобуса, і мне спатрэбілася мая вадзіцельская практыка. Або часам у фільме трэба "пакапацца ў маторы". Мне кажуць: "Падымі капот і нешта там рабі". Нешта рабіць – глядач не паверыць. Трэба ведаць, што рабіць.

**– А тэлесерыял "Дзяржаўная граніца" глядзелі?**

– Не, не давялося. Але здымацца ўсё адно цікава. Тым больш, што 1992 год памятаю добра. Мы ў 1991-м з сям'ёй якраз вярнуліся з Чэхаславакіі. Гэты час, дзевяностыя, асабліва застаўся ў памяці. Памятаю, што рабілася тады ў Расіі, ды і ў Беларусі таксама. Таму пры рабоце над роляй у гэтай карціне імкнуся ўвасобіць і асабістае ўспрыманне. Калі ў тэксце сустракаюцца жаргонныя сучасныя словы, імкнуся іх паправіць, у манеры 90-х. Я ўспамінаю той час і пачынаю казаць так, як казалі ў 90-я.

**– Вы ігралі і паліцэйскіх, і агента ФСБ, і вайскоўцаў. А памежнікаў не даводзілася?**

– Не, гэта першая роля такога плана. Але вайскоўцы – яны заўсёды ваенныя, служаць ці на мяжы або ў іншых войсках. А ваенных карцін у мяне ў жыцці было дастаткова, ды і ёсць успаміны дзяцінства, таму лёгка ўвайшоў у вобраз фізічна. Натуральна, калі падыходзіць да працы над новай роляй, у любой з іх ёсць нюансы, і заўсёды працуеш над сабой, пытаеш у спецыялістаў, што можна і што нельга, што і як рабіць. Складанасці – як і ў працы над любой роляй.

**– Што звязвае вас з Беларуссю?**

– Вы хочаце спытаць, ці няма ў мяне беларускіх каранёў? Няма. Усе беларускія сувязі – гэта мая праца. На "Беларусьфільме" я здымаюся ў другой карціне, але ў кінакампаніі "Фабула" ў Беларусі я ўжо зняўся ў трох фільмах – усюды ў галоўных ролях. У мяне тут вельмі шмат сяброў, беларускіх акцёраў, з якімі я падтрымліваю адносіны ўвесь час, нават з Масквы тэлефаную. Вельмі падабаецца тутэйшая прырода. Падчас здымак аб'ездзіў шмат якія месцы ў Беларусі. Хлопцы мне раяць з'ездзіць на Браслаўскія азёры – кажуць, месцы прыгожыя. Напэўна, выеду сям'ёй. У мяне сын расце, яму цяпер год і дзевяць месяцаў. Можа, у верасні-кастрычніку прыедзем туды проста адпачыць у ціхім, спакойным месцы, на лодцы пакатацца, парыбачыць. Ніякае замежжа з гэтым не параўнаецца – у вас ціха, спакойна.

**– Беларусь для вас замежжа?**

– Не. Паколькі я жыў і вырас у Савецкім Саюзе, якое тут замежжа? Беларусь для мяне – гэта парадак, чысціня, утульнасць, нават гэта можна назваць домам у нейкім сэнсе. Калі прыязджаеш за мяжу, адчуваеш, што гэта не тое, хоць і чысціня, і ўсе ўсміхаюцца, але адчуваеш, што тут ты чужы. А ў Беларусі нешта роднае пад'язджае да душы, цёплае. Малайцы, што захоўваеце стары трошачкі стыль. У Жодзішкі прыехалі, у мяне радасць у вачах – бачу гэтыя дамкі, траўку, сена стаіць у стагах, дроўцы акуратна складзеныя. Гэта тое старое, з чым я вырас. Нагадвае пра дзяцінства.

**– Іншыя называюць саўком?**

– Мне не вельмі падабаецца слова савок, таму я ўсё называю домам. Бацька мой з вёскі, і я таксама лічу сябе вясковым, для мяне гэта блізка, у вас тут добра. На Смаргоншчыне я ўпершыню, але адчуваю сябе тут камфортна.

**– З беларускімі пагранічнікамі ўжо даводзілася мець зносіны?**

– У Мінску ў нас былі здымкі ў пагранічным камітэце. Памежнікі давалі парады, што няправільная ў форме, як сябе паводзіць. Доўга разбіраліся, хто галоўны на заставе – камандзір або начальнік. Як правільна называлася гэтая пасада ў 90-я гады?

Не заўсёды маленькія нюансы ў фільме важныя. Людзі ўлюбляюцца ў персанажаў. Нядаўна мы здымалі фільм пра ваенных маракоў "Міны ў фарватары". Мае севастопальскія сябры – у гэтым горадзе я таксама часта бываю на здымках – часам пішуць, што нешта я зрабіў няправільна. Але ж карціна людзям падабаецца, галоўнае, каб палюбілі персанаж.

### Томас Жайбус: "У фільме размаўляю па-руску, але думаю па-літоўску".

– Тут вечарына? – з'яўляецца на парозе гасцінічнага нумара літоўскі акцёр Томас Жайбус. – Ці можна паўдзельнічаць? Калі, вядома, мой рускі дазволіць.

У "Дзяржаўнай граніцы" ў Томаса эпізадычная роля – ён іграе капітана літоўскай памежнай службы Грышкявічуса. На здымках ён задзейнічаны ўсяго тры дні, толькі ў Жодзішках.

– У фільме размаўляць даводзіцца па-руску, але вельмі спатрэбіўся мой літоўскі акцэнт і ўвесь літоўскі менталітэт.

Эпізадычная роля акцёра з Літвы не бянтэжыць і ані не засмучае:

– Для мяне прапанова здымацца ў беларускім фільме была нечаканай. Але любая такая прапанова – гэта свята, а для літоўскіх акцёраў – свята ўдвайне, таму што ў нас здымаецца мала фільмаў. Такія прапановы не часта паступаюць. У асноўным я тэатральны акцёр, здымаюся цяпер у літоўскім серыяле, а тут – пракатны фільм! Тым больш, што лета, у тэатры цяпер мала спектакляў, таму змог знайсці ў сваім графіку час для здымак.

У Беларусь прыехаў цягніком, адразу ў Смаргонь, гэта 70 кіламетраў, блізка. І хоць жыву недалёка, але ў Беларусі бываю не часта. Раз у год на фестывалях тэатральнага мастацтва "Панарама" – абавязкова. У вас асаблівы тэатральны глядач – ўспрымае пастаноўкі цёпла, з душой. У беларускім фільме здымаюся ўпершыню, да гэтага здымаўся на тэрыторыі Беларусі, праўда, у расійскім фільме.

**– У вобраз пагранічніка ўжо ўжыліся?**

– Цяжка: кожны дзень апранаю форму, але яшчэ ў здымках не ўдзельнічаў. Сёння павінны былі пачаць, але з-за дажджу адклалі. Я бачыў фатаграфіі, як выглядалі нашы памежнікі ў 1992 годзе. Думаю, што роля мне ўдасца.

А тое, што зараз здымаецца, гледачы ўбачаць ужо хутка: выхад новых серый "Дзяржаўнай граніцы" запланаваны на канец гэтага года.

**Наталія ВАЛЫНЕЦ.**
**Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.**



Дырэктар здымачнай групы Таццяна Пятрова.



Расійскі кінаакцёр Андрэй Фралоў.



Літоўскі акцёр Томас Жайбус.



 

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# *Сяргей Трацяк:* "Перспектывы для хакея ў Маладзечне невялікія"




Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Нападаючы "Лядовых пінгвінаў" Сяргей Гайдукевіч.

**МАЛАДЗЕЧНА. "Трус не играет в хоккей!" – успомніліся словы з песні пасля маёй размовы з "Лядовымі пінгвінамі", хакейнай камандай, якая знаходзіцца ў фінале аматарскай хакейнай лігі.**

У гульцоў столькі энтузіязму! Толькі ўсё прыходзіцца рабіць за свае грошы. Пра сітуацыю ў маладзечанскай хакейнай камандзе "Лядовыя пінгвіны" распавядае капітан каманды **Сяргей Трацяк**.

**– Сяргей, скажыце, калі ласка, каманду хто-небудзь фінансуе?**

– Нас ніхто не фінансуе. Усё робім за свае грошы: і форму, і амуніцыю, і арэнду лёду аплачваем самі. Толькі арэнда лядовай арэны каштуе 1 мільён 200 тысяч рублёў за гадзіну.

**– Як часта прыходзіцца арандаваць лёд?**

– Трэніроўкі праходзяць восем разоў на месяц. У камандзе нас агулам чалавек дваццаць. Раскідваем суму арэнды на ўсіх, і атрымліваецца, што прыкладна 60 тысяч трэба аддаць за адну трэніроўку, а за месяц – амаль пяцьсот. Гэта не ўлічваючы тое, што на матчы таксама трэба арандаваць арэну. Але тут ужо дзве каманды скідваюцца.

**– Як ставіцца да такога хобі сям'я? Жонкі не абураюцца, што частка грошай ідзе на хакей?**

– Што ж зробіш, калі так атрымліваецца. Інакш мы не зможам гуляць у хакей. Цяпер спрабуем выбіць хоць нейкія грошы ў горада. Але ніхто на гэта не хоча іх выдзяляць, нягледзячы на тое, што мы прайшлі ў фінал аматарскай хакейнай лігі.

**– Чым займаюцца "Лядовыя пінгвіны" акрамя хакея?**

– Хто чым. Некаторыя працуюць на чыгунцы, ёсць прадпрымальнікі. Хто вокны робіць, хто дзверы ставіць.

**– Сяргей, а які ўзрост хакеістаў у камандзе?**

– Самаму малодшаму ў нас 15 гадоў, а самаму старэйшаму – 52. Мы прыцягваем моладзь, якая хоча гуляць у хакей.

**– Калі да вас у каманду захоча нехта прыйсці, то што яму рабіць?**

– Гэтаму чалавеку трэба да нас прыйсці і паказаць, што ён можа гуляць лепш, чым гэтыя 20 чалавек. У нашай камандзе натуральны адбор. Хто слабейшы, то прабач, дай гуляць іншаму чалавеку. Таму штогод у камандзе мяняецца чалавек пяць.

**– Як хлопцы прыйшлі ў хакей?**

– Шмат з нас выраслі ў раёне Лясных. За Ляснымі, у канцы вуліцы, ёсць невялікая сажалка, можна сказаць, што там мы "жылі" ўсю зіму. А калі ў 2011 годзе пабудавалі лядовы палац – вырашылі зрабіць сваю каманду.

Вось прозвішча ў мяне такое, Трацяк, як у знакамітага варатара "ЦСКА" Уладзіміра Трацяка. А з такім прозвішчам мне сорамна не гуляць у хакей.

**– Сяргей, якія планы складае для сябе каманда?**

– Цяпер каманда ў тупіку. Галоўнае для нас было – гэта адгуляць фінал, які прайшоў у сераду. Усё ўпіраецца ў грошы. Калі б выйгралі, то прайшлі б у вышэйшую лігу.

**– Колькі чалавек прыходзіць на хакейны матч?**

– Чалавек 200-300 дакладна. Спачатку прыходзілі толькі сваякі, блізкія, сябры. А потым я стаў заўважаць, што на трыбунах з'яўляюцца незнаёмыя людзі, якія проста праходзяць паглядзець на гульню. Намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалай Шрымф** нават хацеў прывесці футбалістаў, каб яны паглядзелі, што робяць людзі за свае грошы і якіх вынікаў дасягаюць.

**– А дзе праходзілі выязныя гульні для вашай каманды?**

– Пакуль мы выязджалі толькі ў Мінск. А калі пройдзем далей, то паедзем і ў Салігорск, і ў Баранавічы, па ўсёй Беларусі прыйдзецца катацца.

**– Як вы дабіраецеся, калі прыходзіцца ехаць на выезд?**

– На сваіх машынах. У некаторых ёсць бус, таму прасцей, што не прыходзіцца наймаць аўтобус. Але тады трэба грошы на бензін. Каманда ездзіла нават за мяжу, у горад Тарту, што ў Эстоніі, і прывезла адтуль кубак.

**– А вы кантактуеце з прафесійнымі хакеістамі?**

– Я асабіста кантактую, бо раней гуляў у хакей у Мінску.

**– Сяргей, хто прыдумаў назву каманды?**

– Мы проста сядзелі і жартавалі. Справа ў тым, што ў нас вельмі павольная каманда. Мы ўсе навічкі, ніхто прафесійна хакеем не займаўся. Потым падумалі, якая самая павольная жывёла? Вырашылі, што пінгвін. Раней каманда называлася "Вар'яцкія пінгвіны", а калі пачалі больш сур'ёзна гуляць, то памянялі на "Лядовыя пінгвіны".

**– А хто прыдумаў лагатып каманды?**

– Лагатып прыдумаў наш гулец **Сяргей Гайдукевіч**. Але не тое, што прыдумаў. Лагатып узялі з нямецкага клуба.

**– Сяргей, а ці ёсць ў Маладзечне перспектывы для хакея?**

– На маю думку, перспектывы для хакея ў Маладзечне невялікія. Грошай нам ніхто не выдзеліць. Пра гэта можна будзе весці размову прыкладна ў 2026 годзе. Лядовы палац пабудавалі два гады таму, а каб вырасці хакеісту, трэба гадоў пятнаццаць. Мы ж не прафесіяналы. Толькі калі патрапім у вышэйшую аматарскую лігу, тады прэзідэнцкі клуб выдзеліць нам сродкі. Чым у цябе вышэйшае месца, тым больш сродкаў табе даюць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

НАВІНЫ

## Смаргонь сустрэнецца з БАТЭ

**СМАРГОНЬ.** 28 ліпеня на стадыёне "Юнацтва" футбольны клуб "Смаргонь" правёў матч 1/16 фіналу Кубка Беларусі. Сустракаўся з клубам "Ліда". Смаргонцы разграмілі саперніка з лікам 5:0. Хет-трыкам вызначыўся **Сяргей Крот**.

29 ліпеня ў Доме футбола адбылося лёсаванне 1/8 фіналу Кубка Беларусі-2013/14, паведамляе афіцыйны сайт Беларускай федэрацыі футбола.

"Смаргоні" ў саперніі дастаўся БАТЭ з Барысава. Матчы гэтай стадыі турніру адбудуцца 24-25 жніўня.

## "Забудова-2007" мінімальна саступіла лідару

**МАЛАДЗЕЧНА.** У дванаццатым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 27 ліпеня "Маладзечна-ДЮСШ-4" дома перайграла "Аграсэрвіс" са Слуцка. Лік сустрэчы 3:1.

У гэты ж дзень у гасцях "Забудова-2007" з Чысці з мінімальным лікам саступіла лідару спаборніцтваў "Жодзіна-2007" 0:1. "Забудова-2007" зноў апусцілася на апошняе месца, "Маладзечна-ДЮСШ-4" па-ранейшаму на трэцім месцы, адставанне ад першага – 3 ачкі.

## "Вілія" прайграе 0:4

**ВІЛЕЙКА.** У чарговай гульні чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 28 ліпеня "Вілія" ў гасцях сустракалася з суседам па турнірнай табліцы – камандай БСЗ (Бярэзінскі раён). Віляйчане не забілі ніводнага гола, а ў свае вароты прапусцілі чатыры.

## Працягваецца чэмпіянат раёна па футболе

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 27 ліпеня, адбыліся гульні пятага тура чэмпіянату раёна па футболе. "Шылавічы" прайгралі "Любані" 2:3, "Страла" (Вілейка) саступіла камандзе "Першы Беларускі" з лікам 1:4.

Пакуль у лідарах чэмпіянату каманды "Фламетр", "Першы Беларускі" і СВК "Чурлёны", паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

## Медалі мядзельскіх весляроў

**МЯДЗЕЛ.** У Заслаўі з 23 па 25 ліпеня прайшлі першынство Мінскай вобласці па веславанні на байдарках і каноэ па праграме Алімпійскіх дзён моладзі і спартакіяда ДЮСШ Мінскай вобласці.

У спаборніцтвах удзельнічалі прадстаўнікі Мядзельскай СДЮШАР.

Асабліва ўдала выступілі яны ў першынстве вобласці. Там **Алена Лапцік** перамагла на байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 200 метраў і двойчы была трэцяй: на дыстанцыях 500 і 100 метраў. Алена Лапцік і **Алена Карпей** на байдарцы-двойцы хутчэй за ўсіх пераадолелі адлегласці ў 200 і 500 метраў і былі другімі на дыстанцыі 1000 метраў.

У спартакіядзе ДЮСШ вобласці трэцяе месца заняў **Яўген Баўтрамовіч** на каноэ-адзіночцы на кіламетровай дыстанцыі.

Пра гэта паведаміў старшы трэнер аддзялення веславання на байдарках і каноэ Мядзельскай СДЮШАР **Аляксандр Карпей**.

Па выніках стартаў у Заслаўі да ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах будуць рыхтавацца Алена Лапцік, Алена Карпей, **Сяргей Цімановіч** і **Саўлюс Наркунас.**

## Турнір па пляжным валейболе

**МЯДЗЕЛ.** На пляцоўцы на гарадскім пляжы 27 ліпеня адбыўся турнір па пляжным валейболе. Турнір праходзіў па кругавой сістэме. Удзельнічалі ў ім пераважна каманды з Мядзельскага раёна, таксама былі дзве каманды з Вілейкі. Аднак ва ўсіх групах пераможцамі сталі прадстаўнікі Мядзельшчыны.

Ва ўзроставай групе да 20 год перамаглі **Яўген Малько** і **Антон Шыдлоўскі**. У падгрупе ад 20 да 40 год першае месца заваявалі **Андрэй Русак** і **Аляксандр Сторублёў.**

– Некалькі гульняў было напружаных, – пракаментаваў турнір Андрэй Русак. – Асабліва моцныя былі сапернікі з цэнтра "Зубраня" і з Вілейкі.

Сярод гульцоў ад 40 да 50 год лепшымі сталі **Алег Саковіч** і **Аляксандр Атрошка,** звыш за 50 год – **Аляксандр Жыхар** і **Станіслаў Грышкевіч.**

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Момант з гульні.

## Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Кіраўнік "Камунальніка": "Газета з акцыяй паспяшалася"

Можна падумаць, што ямы на дарозе з'явіліся толькі ў гэтым годзе. Колькі памятаю, там вечна разбітая дарога, гадоў 10 дык дакладна! А як акцыю газета правяла, дык так хутка знайшлася магчымасць для рамонту. Значыць, правільная акцыя! Малайцы "РГ"! ***Дакладна.***

Мне стала не па сабе, што спадар Наздрын-Платніцкі не ведае, што вуліца Меліярацыйная мае асфальтавае пакрыццё. Заасфальтаваная яна была аж да дзіцячага садка 30 гадоў таму і ні разу (!) не рамантавалася. Хутка ад асфальту і следу не застанецца. Але ўсё ж грэйдзіраваць яе нельга. Жыхары з вуліцы ўсё чакаюць, ну калі ж дарожная тэхніка прыедзе на іх вуліцу і прывядзе яе ў належны стан. ***Жыхарка з вуліцы Меліярацыйнай.***

### Хутка ў Маладзечне з'явяцца аўтобусы без кандуктараў

Спачатку выдаткуюць грошы на звычайны кампосцер, каб праз дзесяць гадоў выдаткоўваць на новы, электронны. Круцяк! ***Купалінка.***

### Пад Ашмянамі ў дзіцячым лагеры разбілі градуснік

Я ў дзяцінстве таксама разбіла градуснік, дык каб маці не сварылася, змяла шарыкі ртуці ў шчыліні ў падлозе. І усё ж во дыхалі гэтымі парамі. ***Eva.***

Тут хоць МНС працуе. Было ў мяне такое ў Віцебску, дык яны яшчэ і наехалі, чаго тэлефаную па дробязях. ***L'y.***

**КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА**

# Дзе вандалы псуюць дарожныя знакі часцей



Фота Насці РОЎДЫ

**Цяпер у Маладзечанскім раёне плануецца замяніць каля 45-ці дарожных знакаў.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У раёне цяпер усталявана каля пяці тысяч дарожных знакаў. Аднак далёка не кожнаму шчасціць цалкам адслужыць свой век.**

– На маладзечанскіх дарогах работнікі дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення №195 плануюць замяніць каля 45 знакаў, – кажа дырэктар гэтага ўпраўлення **Аляксандр Пускоў**. – Кошт аднаго знака ў сярэднім каля мільёна рублёў.

Вандалы часта разбураюць знакі, але гэтыя забавы абыходзяцца занадта дорага. І гаворка ідзе не толькі пра грошы, якія выдаткоўваюць на набыццё і ўсталяванне дарожных знакаў.

Таму, хто збіраецца сапсаваць дарожны знак, варта задумацца – гэта "забава" можа каштаваць камусьці жыцця.

– Каму і навошта трэба іх псаваць, не разумею, – кажа кіраўнік арганізацыі. – Думаю, што цвярозы чалавек гэтак не зробіць. Гэта ці дурасць у галаве, ці алкаголь у мазгах, а, магчыма, хтосьці лічыць гэта забавай.

Калі кіроўца збівае знак падчас аварыі і віну даказваюць, то ён мусіць аплаціць аднаўленне знака.

Часта ў майстэрню паступаюць пакалечаныя дарожныя знакі – размаляваныя, паламаныя, з пагнутымі стойкамі. Знакі гнуць, ламаюць, распісваюць. Між тым, аднавіць адзін знак каштуе каля аднаго мільёна рублёў. Але і аднавіць атрымліваецца не кожны. Калі прайшліся фарбай з балончыка, знак, хутчэй за ўсё, давядзецца мяняць, бо яе ніякім раствaральнікам не адцерці.

Як расказаў Аляксандр Пускоў, знакі рамантуюць па меры неабходнасці. Напрыклад, калі зламаўся знак "Стоп" ці "Рух без прыпынку забаронены", такі знак рамантуюць тэрмінова.

– Бывала, усталюем новенькі знак, а праз некаторы час бачым: зноў паламаны, – кажа Аляксандр Пускоў.

### Больш за ўсё знакаў псуюць у Радашкавічах і Алёхнавічах

Вялікія праблемы ёсць і ў Беразінскім. Моладзь выходзіць з каледжа і часта прагульваецца да вёскі Літва. Там і смецця шмат выкідваюць, і знакі псуюць. А ёсць населеныя пункты, дзе знакі могуць прастаяць 10 гадоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 9 | | | 4 | | |
| | 5 | 1 | | 4 | | | | |
| | | 7 | 2 | | | | 8 | 1 |
| 8 | | 4 | | | 1 | | | 3 |
| | 1 | | | | | | 4 | |
| 5 | | | 3 | | | 8 | | 7 |
| 1 | 8 | | | | 7 | 6 | | |
| | | | | 6 | | 1 | 5 | |
| | | 2 | | | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

**РЭПЕРТУАР**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгодніцкі экшн "**Адзінокі рэйнджар**" (ЗША, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16 гадоў)
2 жніўня – у 21.00
3 жніўня – у 15.00, 21.00
4 жніўня – у 12.00, 18.00, 21.00
5 жніўня – у 18.00
6 жніўня – у 21.00
7, 8 жніўня – у 15.00, 21.00
Цана білета – 35 000 рублёў

Экшн "**Чалавек са сталі**" 3D (ЗША, 2013, да 14 гадоў прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 жніўня – у 15.00
3 жніўня – у 12.00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастычны экшн "**Ціхаакіянскі рубеж**" 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, да 12 гадоў прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2, 3 жніўня – у 18.00
4 жніўня – у 15.00
5 жніўня – у 21.00
6-8 жніўня – у 18.00
Цана білета – 40 000-45 000

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Прыгоды Машы ў краіне Цудаў**" (Кітай, 2012)
2 жніўня – у 17.30
3, 4 жніўня – у 15.30
Цана білета – 15 000 рублёў

Драма "**Забава**" (Расія, 2012)
2 жніўня – у 19.30, 21.30
3, 4 жніўня – у 17.30, 19.30, 21.30
5 жніўня – у 21.30
6-8 жніўня – у 19.30
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя "**Гара самацветаў 7**" (Расія)
6-8 жніўня – у 17.30
Цана білета – 15 000 рублёў

Баявік "**Бяжы**" (ЗША, 2013)
6-8 жніўня – у 21.30
Цана білета – 25 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (2-8 ЖНІЎНЯ)**



**Авен.** Старайцеся высыпацца, каб супакоіць нервовую сістэму, часцей бывайце на прыродзе і сачыце за якасцю прадуктаў, што вы ясце. А яшчэ навучыцеся "выдаляць" са сваёй галоўкі трывожныя думкі.



**Цялец.** Вам будуць дарэчы такія словы: "Жыццё вельмі кароткае, каб яго траціць на дыеты, скупых мужчын і дрэнны настрой".



**Блізняты.** Хтосьці з вашага акружэння ў сваіх роздумах дасць вам падказку ўнікальнага вырашэння даўняй праблемы. Будзьце ўважлівыя.



**Рак.** Павышаецца вынослівасць, здольнасць вытрымліваць вялікія разумовыя і псіхалагічныя нагрузкі, весці спартанскі лад жыцця. Добры перыяд для вырашэння праблем матэрыяльнага характару.



**Леў.** Вам пашанцуе апынуцца ў патрэбны час і ў патрэбным месцы і сустрэць цікавых людзей. Прызначаныя сустрэчы і перагаворы пройдуць паспяхова дзякуючы вашай настойлівасці і ўменню знаходзіць агульную мову з людзьмі.



**Дзева.** Каб зберагчы здароўе, кіруйцеся прымаўкай "Работа не воўк, у лес не пабяжыць".



**Шалі.** Нейкія дзверы прыйдзецца адчыняць сілай, затое іншыя самі адчыняцца перад вамі. Усю сваю сілу накіруйце на станоўчыя змяненні ў сваёй душы.



**Скарпіён.** Уласнае жыццё павінна стаць як засакрэчаная лабараторыя, паколькі могуць з'явіцца людзі, якія змогуць парушыць любоўную ідылію словам ці справай.



**Стралец.** Важна не толькі вырашыць цяперашнія праблемы, але і ацаніць, як абернецца сітуацыя ў будучыні. Вучыцеся глядзець на тое, што адбываецца, з вышыні птушынага палёту.



**Казярог.** Як бы ні складзіся абставіны, памятайце пра цярпенне і ўнутраную дысцыпліну. Дома старайцеся трымаць язык за зубамі і не крыўдзіць нікога з родных.



**Вадалей.** Вырашайце праблемы з халоднай галавой і не забывайцеся, што нервы і эмоцыі і ёсць прычына ўсіх хвароб.



**Рыбы.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

**Камент-эксперт** erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 / +19 | | +16 / +23 | | +16 / +24 | | +15 / +24 | |
| | 738 | ↘ 6 | 740 | ↓ 6 | 742 | ↓ 4 | 742 | → 1 |
| Вільня | +13 / +20 | | +15 / +23 | | +15 / +25 | | +16 / +21 | |
| | 748 | ↘ 6 | 751 | ↓ 5 | 752 | ↘ 2 | 752 | ↘ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.29
Захад 21.08
Даўжыня дня 15.39

Усход 2.15
Захад 18.42
Квадра 4

**3 жніўня, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +13 / +22 | 746 | ↓ 5 |
| Гродна | +16 / +24 | 751 | ↓ 3 |
| Мінск | +16 / +23 | 740 | ↓ 6 |
| Магілёў | +15 / +19 | 744 | ↓ 6 |
| Гомель | +15 / +23 | 749 | ↓ 4 |
| Брэст | +16 / +25 | 750 | ↓ 3 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Барыс (6 жніўня). "Барыс і Глеб – паспеў хлеб".
- Ганны (7 жніўня). "Як на Ганну ранак халодны – будзе і зіма халодная". "Барыс з Ганнай не гуляюць, святому Іллі памагаюць".

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як бы вы хацелі справіць сваё вяселле?

**Анастасія Унукоўская, абітурыентка:**

– Я хацела б, каб першы дзень быў з роднымі, а другі – з сябрамі! Першы дзень – усё, як звычайна: выкуп, загс, вянчанне! А другі асаблівы: надзець вясельную сукенку, паклікаць сяброў і шпацыраваць па горадзе, фатаграфавацца! Хачу, каб было весела і цікава, не як ва ўсіх!

**Анастасія Сабліна, студэнтка:**

– Я не хачу спраўляць вяселле з вялікай колькасцю гасцей. Мне б хацелася распісацца з мужам у экзатычнай краіне і каб побач было пару сяброў у якасці сведак. І вяселле, і мядовы месяц у адным флаконе.

**Марыя Каспяровіч, школьніца:**

– Ой, нават не думала яшчэ пра гэта, таму не ведаю, дзе і як буду спраўляць вяселле.

**Юры Ярашэвіч, студэнт:**

– Я хачу справіць вяселле толькі ў кампаніі старых добрых сяброў!

**Вераніка Шыманоўская, студэнтка:**

Напэўна, я вяселле спраўляла б у коле родных і блізкіх мне людзей. Дзесьці на прыродзе, у палатцы і з афіцыянтамі. І дакладна не ў Беларусі.

**Вольга Хіневіч, студэнтка:**

– Мне б хацелася адгуляць вяселле ў якой-небудзь паўднёвай краіне, на беразе мора.

**Аляксандра Шавярдак, абітурыентка:**

– Урачыстасць дакладна не была б пышнай. Запрасіла б толькі блізкіх мне людзей. Хачу ўзяць шлюб і зладзіць чароўную фотасесію на цёплым кантыненце, дзе адразу ж можна і ўсё гэта адсвяткаваць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Успаміны аб славе будаўнічага трэста, якога няма. Раскazвае былы галоўны інжынер "Маладзечнасельбуда" Мікалай Даргель.**

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ

Фота Юрыя ГОРБАДА.

**Старасць – не радасць. Нават у спякоту халадна, а цяжкая ноша гне да зямлі.**



Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 31 (953) 2.08.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 700. Падпісана ў друк у 10.00 1.08.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.